

Пралятары ўсіх краін, злучайцеся!

# БЮЛЯТЭНЬ САВЕТУ НАРОДНЫХ КАМІСАРАЎ БЕЛАРУСКАЙ САЦЫЯЛІСТЫЧНАЙ САВЕЦКАЙ РЭСПУБЛІКІ

Выдаецца Інфармацыйна-Выдавецкім Аддзелам Кіраўніцтва Спраў СНК і Эканамічнай Нарады (г. Менск, Чырвонаармейская вул. № 3). — Падпісная плата на год 5 р. і на $^1/_2$ г. 2 р. 50 к.

VI-ы ГОД ВЫДАНЬНЯ

№ 10 (84) | 5 чэрвеня 1930 г. | № 10 (84)


## ЗЬМЕСТ.



Узгоднена з ЦСПСБ.

### Паст. 106. Пра зацьверджаньне сьпісу сэзонных работ.

На падставе ўвагі да арт. 1 пастановы ЦВК і СНК СССР за 4 чэрвеня 1926 г. „Пра ўмовы працы на сэзонных работах“ (З. З. СССР 1925 г. № 40, арт. 290) і ў дадатак да пастановы НКП СССР за 17/X-1929 г. № 338 („Известия НКТ СССР“ 1929 г. № 43—44) Народны Камісарыят Працы БССР пастанаўляе зацьвердзіць наступны дадатковы сьпіс сэзонных работ, на якія пашыраецца дзейнасьць пастановы ЦВК і СНК СССР за 4/VI-1926 г.:

1. Сельска-гаспадарчыя работы:

а) мэліарацыйныя,

б) сяўба ярыны, падрыхтоўка поля пад зімовы пасеў (папар), збор з поля ярыны і зімовых пасеваў, сяўба на зіму, збор з сенажацяй, падрыхтоўка глебы пад агародныя культуры, сяўба, пасадка і збор гародніны і садавіны, ахова садоў, сенажацяй і палёў.

Гэты сьпіс не пашыраецца на сялянскія гаспадаркі, на якія пашыраюцца „Часовыя правілы аб умовах ужываньня дапаможнай наймовай працы ў сялянскіх гаспадарках“ (З. З. СССР 1929 г., № 46, арт. 402).

2. Работы па камунальнай гаспадарцы:

Пляніроўка вуліц, папраўка праездаў і дарог, брукаваньне, пракладка тратуараў, капаньне канаў, папраўка мастоў, работа ў гарадзкіх бульварах і парках, пасадка дрэў, выраб бэтонных матарыялаў (па-за заводамі, якія прыстасаваны для работы цэлы год), загатоўка будаўнічых матарыялаў (каменьняў, чвыру, гліны), асфальтавыя работы, умацаваньне берагоў рэчак, равоў і выраўноўваньне рэчышчаў.

3. Пастанова ЦВК і СНК СССР за 4 чэрвеня 1926 г. пашыраецца на ўсе работы, пералічаныя ў сьпісах сэзонных работ, зацьверджаных Народным Камісарыятам Працы СССР, калі гэтыя работы ўжываюцца ў сельскай і камунальнай гаспадарках.

4. Работы па падсечцы, работы па апрацоўцы грыбоў.

5. Паказаны ў папярэдніх артыкулах сьпіс не пашыраецца на рабочых, занятых на работах больш шасьці месяцаў і на штатных рабочых, якія працуюць на паказаных у сьпісе работах.

6. Пастановы НКП БССР за 11 сакавіка 1927 г. № 43 (Бюл. СНК 1927 г. № 7) і за 30 чэрвеня 1928 г. № 44 (Бюл. СНК 1928 г. № 7) не касуюцца.

Народны Камісар Працы БССР *М. Гнілякевіч.*

Ст. Інспэктар НКП БССР *Іоффе.*

27 мая 1930 г.
№ 32.

## Пастанова Народнага Камісарыяту Земляробства БССР.

### Паст. 107. Пра арганізацыю паляўніцкіх заказьнікаў у Менскай і Аршанскай акругах.

Народны Камісарыят Земляробства БССР пастанаўляе арганізаваць наступныя паляўніцкія заказьнікі ў Менскай і Аршанскай акругах тэрмінам на 5 год, пачынаючы з 1 мая 1930 г. і да 1 мая 1935 г.:

Па Менскай акрузе:

1) У Прылепскай дачы Менскага лясьніцтва, у кварталах №№ 1—16, на плошчы 1605 га;

2) У Дзьвіноскай дачы Плешчаніцкага лясьніцтва, у кварталах №№ 1—35, на плошчы 3822 га, з забаронай паляваньня ва ўрочышчы „Яськава Балота“;

3) У Неманіцкай дачы Неманіцкага лясьніцтва, у кварталах №№ 8, 16, 18, 25, 28 34, 38, 45, 46, 77—79, 85—105, 107—120, усяго

на плошчы 2.762 га, з дазволам пасьвіць скаціну ў кварталах №№ 8, 16, 18, 28, 34, 38, 45, 46, 79, 88—93, 101—102, 110—112, 113, 116, 117—120 і забаронай паляваньня на землях хутароў Стайкі і Шыліна на поўдзень ад чыгункі.

Па Аршанскай акрузе:

4) У Дрыбінскай дачы Дрыбінскага лясьніцтва, у кварталах №№ 65—67, 78—83, 95—102, 111—123, 128—140, 143—153, 156—164, агульнай плошчай 3600 га, з дазволам пасьвіць скаціну ў кварталах №№ 65—67, 78—83, 95—96, 99—102, 111, 117—123, 128—130, 137—140, 142, 143, 150—153, 156—164;

5) Ва Ўхвальскай дачы Ўхвальскага лясьніцтва, у кварталах №№ 54, 55, 64—69, 76—128, на плошчы 6000 га, з дазволам пасьвіць скаціну ў кварталах №№ 54, 55, 64—69, 76—85, 86—88, 93—96, 100—106, 112—115, 121, 122, 126—128 і забаронай паляваньня на землякарыстаньні вёскі Сомры, якая знаходзіцца ў межах заказьніку;

6) У Рацаўскай дачы Коханаўскага лясьніцтва, у кварталах №№ 10, 11, 14, 23—131, на плошчы 3541 га, з дазволам пасьвіць скаціну ў кварталах №№ 10, 11, 14, 23—94, 98, 99, 106—108, 112—116, 120, 121, 125—131;

7) У Шчэрбінскай дачы Шчэрбінскага лясьніцтва, у кварталах №№ 1—157, на плошчы 11.872 га, з забаронай пасьвіць скаціну ў кварталах №№ 24—27, 35—39, 57—60, 77—80, 86—89, 104—107, 140—157.

8) У Чарэйскай дачы Чарэйскага лясьніціцтва, у кварталах №№ 1—53, на плошчы 5.000 га, з забаронай пасьвіць скаціну ў кварталах №№ 17—19, 20, 21, 24, 25, 28, 29, 32, 33, 38, 39, 44—46 і паляваньня на землях сельскагаспадарчага карыстаньня на поўдзень ад паўночнага берагу возера Квеціна, на захад ад дарогі Тапорышча-Язвы-14 квартал дачы на поўнач ад паўднёвых кутоў кварталаў №№ 52 53 да возера Селява і на возеры Селява ў межах заказьніку.

Нам. Народнага Камісара Земляробства БССР *К. Масюкоў.*

Член Калегіі НКЗ БССР — Загадчык Лясного Сэктару *Я. Пятрушын.*

12 мая 1930 г.
г. Менск.

**Паст. 108. Пра парадак правядзеньня „Месячніка торпу“.**

*Усім АКРЗА, калгассаюзам, паляводсаюзам, малжывёлсаюзам, садагародсаюзу, Белсельтрэсту, Белмалжывёлсаюзу і Белсадгародсаюзу.*

Адным з асноўных мерапрыемстваў Савецкай улады ў справе разьвіцьця народнай гаспадаркі краіны зьяўляецца падняцьце ўраджайнасьці нашых палёў. Пяцігадовым пэрспэктыўным плянам разьвіцьця народнай гаспадаркі БССР прадугледжваецца павялічэньне ўраджайнасьці к канцу пяцігодкі на 45%.

З ліку мерапрыемстваў, накіраваных для падняцьця ўраджайнасьці нашых палёў, першае месца належыць аднаўленьню пладародзьдзя глебы. Мінэральныя глебы Беларусі адносяца да таго тыпу

глеб, на якіх без угнаеньня дастатковай колькасьцю арганічнага матарыялу немагчыма атрыманьне больш-менш здавальняючых вынікаў.

Адзіным матарыялам арганічнага характару, якім карысталася і карыстаецца наша сельская гаспадарка для ўгнаеньня палёў, зьяўляецца гной, г. зн. тое ўнівэрсальнае ўгнаеньне, якое ў поўнай меры можа забясьпечыць добрыя ўраджаі пры ўмове дастатковай колькасьці яго ў сельскай гаспадарцы. Але, на жаль, гною не хапае. Замест нармальнай колькасьці гною 2400 пуд. на гэктар, уносіцца толькі каля 500 пудоў, а часта гэта лічба таксама зьмяншаецца.

Ня менш востры недахоп будзе адчувацца і ў атрыманьні мінэральных угнаеньняў, выраб якіх патрабуе вялізарных сіл і сродкаў.

Недахоп гэтых угнаеньняў можна папоўніць торпам, які даступны сельскай гаспадарцы з мінімальнымі затратамі грашовых сродкаў.

Скарыстаньне торпу ва ўсіх яго відах (чысты, у кампосьце, тарпяны гной, тарпяная падсьцілка і інш.), як каштоўнага ўгнаеньня, павінна ўкараніцца ў сельскай гаспадарцы.

Можна быць упэўненым, што ў справе падняцьця ўраджайнасьці нашых палёў, пры недахопе штучных угнаеньняў, торп адыграе рашучую ролю.

Ня меншую ролю торп павінен адыграць і ў забясьпечаньні сельскай гаспадаркі апалам. Вядома ўсім, што ў бязьлесных альбо малалясістых раёнах БССР, насельніцтва карыстаецца дрывяным апалам з лясоў, знаходзячыхся за некалькі дзесяткаў кілёмэтраў у той час як недалёка маюцца тарпянікі, з якіх магчыма здабыць тарпяны апал лягчэй дрывянога.

Скарыстаньне тарпянога апалу памяншае вырубку лясоў, памяншае дэфіцыт народнай гаспадаркі ў апале, якая пры буйным разьвіцьці прамысловасьці ўсё больш яго патрабуе, памяншае ўвоз прывознага апалу (каменнага вугалю) і гэтым самым эканоміць сотні тысяч рублёў народных грошай.

Улічваючы тую ролю, якую можа мець скарыстаньне торпу ў сельскай гаспадарцы, намечана паміж 1 чэрвеня і 1 ліпеня арганізаваць „Месячнік торпу“, у якім усе спэцыялістыя сельскае гаспадаркі павінны прымаць самы актыўны ўдзел. Для кіраваньня работай спэцыялістых НК Земляробства прапануе тэрмінова скласьці пры Белпаляводсаюзе, Белкалгасцэнтры і ў адпаведных акруговых установах спэцыяльныя брыгады па арганізацыі „Месячніка торпу“.

Аб'яднаньне і ўзгадненьне работы брыгад у акругах ускладаецца на Акрпаляводсаюзы.

Сярод тых мерапрыемстваў, якія будуць намечаны паказанымі брыгадамі, НКЗ прапануе шэраг наступных мер, накіраваных да папулярызацыі торпу сярод саўгасаў, калгасаў і бядняцка-серадняцкага сялянства:

1. Прапанаваць спэцыялістым акрза, акрпаляводсаюзаў, калгассаюзаў, малжывёлсаюзаў, садагародсаюзаў прыняць самы актыўны ўдзел у друку дасылкай заметак, артыкулаў, лёзунгаў і інш. для высьвятленьня пытаньня скарыстаньня торпу ў якасьці апалу, падсьцілу і ўгнаеньня.

2. Арганізаваць выезды спэцыялістых на месцы з мэтай правядзеньня прапаганды, агітацыі сярод насельніцтва і прыцягненьня яго да загатоўкі торпу на апал, падсьціл, угнаеньне, закладку кампосных куч і скарыстаньня выкапанага ў мінулыя гады пры правядзеньні асушальных гідратэхнічных работ торпу.

3. Правесьці закладку паказальных вучасткаў з тарпяным угнаеньнем на палёх сацыялістычнага сэктару сельскай гаспадаркі.

4. Арганізаваць чытку лекцый і гутарак з прыцягненьнем да гэтага прафсаюзных арганізацый, настаўніцкага пэрсаналу, загадчыкаў хат-чытальняў і інш. работнікаў на мясцох.

5. Увесьці сацыялістычнае спаборніцтва паміж асобнымі калгасамі, саўгасамі і тарпянымі таварыствамі па падрыхтоўцы торпу.

6. Сумесна з прамысловымі торпараспрацоўкамі Белторпу арганізаваць раённыя тарпяныя выстаўкі і паказальныя распрацоўкі тарпянікаў.

7. На працягу „Месячніка торпу“ ўжыць захады да поўнага скарыстаньня торпакальных мас у калгасах і саўгасах.

8. У выніку ўсіх намечаных вышэй мерапрыемстваў павінна быць у 1929/30 г. па калгасах і насельніцтвам здабыта ня менш наступнай колькасьці торпу (гл. дадатак), прычым за час „Месячніка торпу“ — большая частка гэтай колькасьці.

9. За ўвесь час „Месячніка торпу“ адпаведным установам сачыць за выкананьнем загатоўкі торпу, правяраючы выкананьне заданьняў асобных саўгасаў, калгасаў і вёсак на месцы.

10. Усе акрпаляводсаюзы павінны сабраць весткі аб падрыхтоўцы торпу пасьля сканчэньня „Месячніка торпу“ і падаць у НКЗ не пазьней 20-га ліпеня г. г. па форме № 1.

Нам. Народнага Камісара Земляробства БССР *К. Масюкоў.*

Кіраўнік Сэктару Земляўпарадкаваньня і Мэліарацыі *Вайцэховіч.*

27 мая 1930 г
№ 799.

Дадатак.

| Форма № 1. | Здабыта торпу | | | | | | | | | | | | Затарпаваць у 1929/30 г. тыс. гэкт. | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | На апал тыс. тон | | | На подсьц. тыс. тон | | | На ўгнаен. тыс. тон | | | Заложана камп. ям. | | | | | |
| АКРУГА | Саўг. | Калг. | Тавар. і нас. | Саўг. | Калг. | Тавар. і нас. | Саўг. | Калг. | Тавар. і нас. | Саўг. | Калг. | Тавар. і нас. | Саўг. | Калг. | Тавар. і нас. |
| Менская | 11 | 14,5 | 58,5 | 2 | 0,6 | 2,4 | 100 | 55 | 215 | 100 | 80 | 320 | 1 | 1,4 | 5,6 |
| Віцебская | 2,5 | 2,5 | 10,5 | 1 | 0,6 | 2,4 | 70 | 44 | 176 | 100 | 60 | 240 | 1 | 0.8 | 3.2 |
| Магілеўская | 2,5 | 2,5 | 10,5 | 1 | 0,3 | 1,2 | 100 | 44 | 176 | 50 | 50 | 200 | 1 | 1,0 | 4,0 |
| Мазырская | 0,6 | 0,3 | 2,7 | 0,8 | 0,1 | 0,6 | 50 | 20 | 80 | 50 | 30 | 120 | 1 | 0,4 | 1,6 |
| Аршанская | 2,5 | 2,0 | 8,0 | 0,7 | 0,2 | 1,1 | 70 | 32 | 128 | 50 | 50 | 200 | 1 | 0,6 | 2,4 |
| Полацкая | 0,6 | 1,2 | 4,8 | 0,5 | 0,3 | 1.2 | 40 | 12 | 48 | 50 | 30 | 120 | 1 | 0,4 | 1,6 |
| Бабруйская | 7,0 | 5,5 | 20,5 | 0,5 | 0,2 | 0,8 | 50 | 22 | 88 | 50 | 50 | 200 | 1 | 0,6 | 2,4 |
| Гомельская | 3,3 | 15,5 | 50,5 | 0,5 | 0,2 | 0,8 | 120 | 55 | 205 | 200 | 120 | 480 | 1 | 1,2 | 4,8 |
| Разам | 30 | 44,0 | 176,0 | 7,0 | 2,5 | 10.5 | 600 | 284 | 1116 | 650 | 470 | 1880 | 8 | 6,4 | 25,6 |
| | 250 | | | 20 | | | 2000 | | | 3000 | | | 40,0 | | |

## Абежнік Народнага Камісарыяту Юстыцыі БССР.

### Паст. 109. Пра ўзмацненьне барацьбы з пратэкцыянізмам.

*Усім акрпракурорам і акрсудам.*

Пратэкцыянізм пры найме рабочай сілы ва ўсіх яго відах зьяўляецца адным з хваравітых зьявішчаў у нашым савецкім апараце, а таму судова-сьледчыя органы, побач з правадзімай імі работай па папярэджаньню злачынстваў, правядзеньню расьсьледваньняў па зробленых ужо злачынствах і па ўжываньню адпаведных рэпрэсіўных мер, павінны зьвярнуць асаблівую ўвагу на выпадкі пратэкцыянізму, а таксама на адзін з новых відаў пратэкцыянізму,—пераход працоўных з аднэй працы на другую, што дрэнна адбіваецца на працы прадпрыемстваў і ўстаноў.

Выпадкі пратэкцыянізму, а таксама пераходы працоўных з аднэй працы на другую за апошні час вельмі павялічыліся і Савет Народных Камісараў Саюзу ССР пастановай сваёй за 14 лютага г. г., прапанаваў урадам саюзных рэспублік абавязаць судовыя органы і пракуратуру ўзмацніць барацьбу з усімі відамі пратэкцыянізму.

А таму, Народны Камісарыят Юстыцыі, пацьвярджаючы да няўхільнага выкананьня абежнік свой за 23 сьнежня 1927 г. № 113 аб мерах барацьбы з пратэкцыянізмам, прапануе акрпракурорам узмацніць барацьбу з пратэкцыянізмам з тым, каб віноўныя ў пратэкцыянізьме няўхільна прыцягваліся да крымінальнай адказнасьці па 196 альбо 213 арт. арт. КК і каб справы гэтыя хутка афармляліся і накіроўваліся ў суд.

Пры паступленьні памянёных спраў у суды апошнія павінны прызначаць іх да слуханьня ў тэрміновым парадку, а па справах, маючых грамадзкае значэньне, праводзіць паказальныя працэсы з абавязковым асьвятленьнем іх у друку.

Народны Камісар Юстыцыі
і Пракурор Рэспублікі БССР *А. Сташэўскі.*

Пракурор па працоўных справах *Юдэльзон.*

19 мая 1930 г.
№ 24/2.

## Пастанова Народнага Камісарыяту Юстыцыі і Народнага Камісарыяту Фінансаў БССР.

### Паст. 110. Пра аплату натарыяльных дзеяньняў і тэхнічных паслуг сельскіх, местачковых і гарадзкіх саветаў.

На падставе арт. 64 Натарыяльнага Палажэньня БССР (З. З. БССР 1929 г., № 36, п. 209), Народны Камісарыят Юстыцыі і Народны Камісарыят Фінансаў БССР пастанаўляюць замест зацьверджанай НКЮ і НКФ „Таксы збораў за засьведчаньне раённымі выканаўчымі камітэтамі, сельскімі і местачковымі саветамі ўгод, дагавораў і дакумэнтаў“ (Бюл. СНК БССР 1928 г. № 15) зацьвердзіць наступныя

## Правілы пра аплату натарыяльных дзеяньняў і тэхнічных паслуг сельскіх, местачковых і гарадзкіх саветаў:

### 1. Агульныя палажэньні.

1. За кожнае натарыяльнае дзеяньне (пасьведчаньне зьдзелак і дакумэнтаў, паказаных у арт. 1 інструкцыі), якое выконваецца сельскім, местачковым альбо гарадзкім саветам, бярэцца плата паводле ставак устаноўленых у гэтай пастанове таксы.

Апроч натарыяльнага збору спаганяецца яшчэ набаўка да яго на мясцовыя патрэбы ў разьмеры, устаноўленым мясцовым акруговым выканаўчым камітэтам паводле арт. 82-е Палажэньня пра мясцовыя фінансы БССР (З. З. БССР 1928 г., № 33, арт. 313).

Усе гэтыя зборы здаюцца ў мясцовы бюджэт.

2. За складаньне праектаў зьдзелак і даверанасьцяй, а таксама за напісаньне копій дакумэнтаў і за выкананьне дзеяньняў, зьвязаных з заключэньнем зьдзелак, бярэцца асобная плата паводле паказаных у часьці III гэтай пастановы ставак.

Атрыманыя за тэхнічныя паслугі грошы паступаюць у распараджэньне адпаведнага савету.

3. Ад выплаты натарыяльнага збору і збору на мясцовыя патрэбы вызваляюцца:

а) сялянскія камітэты ўзаемадапамогі;

б) перасяленцкія таварыствы і арцелі;

в) дакумэнты, якія патрабуюцца вайсковымі ўстановамі ад грамадзян па справах аб прызыве іх на вайсковую службу і для выкананьня вайсковай службы;

г) Таварыства дапамогі ахвярам інтэрвэнцыі, яго органы і ўсе грамадзяне па афармленьні дакумэнтаў, якія накіроўваюцца Таварыству і яго органам;

д) усялякія дакумэнты, што датычаць атрыманьня і спагнаньня заработнай платы, сродкаў на ўтрыманьне, пэнсій і дапамог ад органаў сацыяльнага страхаваньня і сацыяльнага забясьпечаньня;

е) дакумэнты дабравольных пажарных арганізацый, зьвязаных з афармленьнем арганізацыі іх;

ж) дагаворы па дзяржаўнай насеннай пазычцы, якія робяцца беспасрэдна з насельніцтвам;

з) асобы, вызваленыя судом ад судовых збораў, калі яны просяць пасьведчыць іх дакумэнт альбо копію для падачы ў суд па справе, па якой суд вызваліў іх ад судовых збораў;

і) пасьведчаньне подпісаў на паштовых павестках на атрыманьне ўсякага роду лістоў, апроч каштоўных пакетаў;

к) засьведчаньне копій дакумэнтаў, якія выдаюцца пры паступленьні ў навучальныя ўстановы і ў органы сацыяльнай забясьпекі.

4. Апроч паказаных у арт. 3 выпадкаў сельскі, местачковы альбо гарадзкі савет самастойна можа зьнімаць зборы па незаможнасьці.

Аб зьняцьці збораў адзначаецца ў надпісу аб пасьведчаньні з паказаньнем прычын зьняцьця.

5. Пры пасьведчаньні зьдзелак, калі з аднае з старон зьняты натарыяльны збор, другая старана павінна плаціць натарыяльны збор толькі з належачай ад яго часткі.

### II. Стаўкі натарыяльных збораў.

6. За пасьведчаньне зьдзелак і дагавораў бярэцца з сумы зьдзелкі альбо дагавору $^1/_2$ працанту, але ня менш 50 к.

У суму зьдзелкі альбо дагавору ўваходзяць усе тыя плацяжы, якія павінны быць зроблены паводле гэтай зьдзелкі ці дагавору.

Сума зьдзелкі абвяшчаецца старанамі; калі прадметам зьдзелкі зьяўляюцца ня грошы, а тавары, сыравіна і г. д., то кошт гэтых прадметаў вызначаецца старанамі, калі-ж вызначаную старанамі суму савет лічыць занадта нізкай, то ён устанаўляе яе на падставе даведачных цэн.

7. За натарыяльнае пасьведчаньне зьдзелак, якія ня могуць быць ацэнены, бярэцца 1 руб.

8. За пасьведчаньне ўсялякіх надпісаў, якія робяцца старанамі на дагаворах, бярэцца 50 кап. за надпіс.

9. За натарыяльнае пасьведчаньне тэстамэнтаў (завяшчаньняў) бярэцца 3 руб.

10. За натарыяльнае пасьведчаньне давераназьцяй бярэцца:

а) на атрыманьне пасылачнай і грашовай паштовай карэспандэнцыі, а таксама за давяральныя надпісы на дублікатах, талёнах і *накладных—10 к.;*

б) на падпісаньне дагавораў, якія могуць быць натарыяльна пасьведчаны ў сельскім, местачковым альбо гарадзкім савеце—1 р.;

Даверанасьці на падпісаньне дагавораў, якія павінны пасьвядчацца ў натарыяльнай канторы, аплачваюцца на падставе ставак для натарыяльных кантор;

в) на вядзеньне спраў у судовых і адміністрацыйных органах—50 кап.;

г) на кіраваньне маемасьцю, апроч маемасьці працоўнай земляробскай гаспадаркі—3 руб.;

д) на кіраваньне маемасьцю працоўнай земляробскай гаспадаркі—50 кап.;

е) за давяральныя надпісы на банкаўскіх пераводах—75 кап.;

ж) за ўсе іншыя даверанасьці—50 кап.

11. Калі пасьвядчаецца даверанасьць, якая выдаецца некалькімі паасобнымі грамадзянамі ці некалькімі юрыдычнымі асобамі (установамі, прадпрыемствамі і арганізацыямі) разам, то апроч устаноўленай платы за даверанасьць, бярэцца па 10 кап. з кожнай асобы, апроч першай.

12. За засьведчаньне арыгіналу подпісаў на заявах і іншых дакумэнтах, але не на дагаворах, бярэцца 10 кап. за подпіс.

13. За засьведчаньне арыгіналу подпісаў закладчыкаў рознага роду таварыстваў і саюзаў бярэцца 25 кап. за кожны подпіс.

14. За засьведчаньне арыгіналу подпісаў асоб, якія расьпісаліся на дагаворы за няпісьменнага ўдзельніка дагавору, бярэцца 25 к. за кожны подпіс.

15. За засьведчаньне копій дакумэнтаў, выданых альбо засьведчаных дзяржаўнымі ўстановамі, бярэцца:

а) за засьведчаньне копій ўгод і дагавораў—па 25 кап. з кожнай старонкі;

б) за засьведчаньне іншых дакумэнтаў—15 кап. з кожнай старонкі.

16. За выдачу выпісу з рэестру бярэцца 15 кап. за старонку.

17. Зборы за выдачу выпісаў альбо засьведчаньне копій ня могуць быць большымі як зборы за пасьведчаньне арыгіналу гэтых дакумэнтаў.

Ва ўсіх паказаных у гэтай пастанове выпадках старонка лічыцца ў 35 радкоў.

### III. Стаўкі аплаты тэхнічных паслуг.

18. За складаньне праекту дагавору бярэцца па 50 кап. з кожнай асобы, якая павінна падпісаць дагавор.

19. За складаньне праэктаў даверанасьцяй бярэцца:

а) за праект даверанасьці на атрыманьне грашовых пераводаў па пошце і пасылак—15 кап;

б) за праекты іншых даверанасьцяй—50 кап.

20. За напісаньне копій ўгод і дакумэнтаў бярэцца па 25 кап. за кожную старонку арыгіналу дагавору.

Калі копія робіцца для паданьня ў навучальную ўстанову, то бярэцца па 15 кап. за старонку.

21. Пасьля сканчэньня кожнага месяца атрыманыя за тэхнічныя паслугі сумы прэзыдыумам савету разьмяркоўваюцца паміж працаўнікамі, якія праводзілі гэтую работу.

Нам. Народнага Камісара Юстыцыі БССР *П. Валасевіч.*

Нам. Народнага Камісара Фінансаў БССР *Л. Бунін.*

19 мая 1930 г.

## Загад па Вышэйшаму Савету Народнай Гаспадаркі і Народнаму Камісарыяту Гандлю БССР.

### Паст. 111. Пра дагаворную дысцыпліну.

У сувязі з правядзеньнем крэдытнай рэформы, на падставе загаду па ВСНГ і НКГ СССР і ў адпаведнасьці з апошнім, ВСНГ і НКГ БССР загадваюць усім дзяржаўным установам і прадпрыемствам, а таксама каперацыйным арганізацыям пры заключэньні імі дагавораў куплі-продажу, пастаўкі, падраду і г. д. кіравацца няўхільна наступнымі правіламі:

1. У дагаворах куплі-продажу, пастаўкі, падраду і інш., якія вызначаюць абавязак па здачы тэй ці іншай прадукцыі, павінны быць абавязкова ўстаноўлены пэўныя тэрміны падачы пакупнікам (заказчыкам) занарадак (заявак) на належачую да адгрузкі (здачы) прадукцыю і такія-ж пэўныя тэрміны для выкананьня самых дагавораў, у тым ліку агульныя і паасобныя тэрміны адгрузкі (здачы) прадукцыі памесячна, па паўмесячна або падэкадна (па 10-днёўках), бяз дачы якіх-небудзь льготных дзён звыш паказаных пэўных тэрмінаў.

2. Калі паказаныя ў п. 1 пэўныя тэрміны ня вызначаны у дзейных дагаварох, альбо ня досыць дакладна ўстаноўлены, дык гэтыя дагаворы павінны быць неадкладна зьменены ў адпаведнасьці з патрабаваньнямі пункту 1.

3. У пералічаныя ў п. 1 гэтага загаду дагаворы павінен уключацца пункт пра абавязак прадаўцоў (пастаўшчыкоў, падрадчыкаў і г. д.) у 3-дзённы тэрмін паведамляць сваіх контрагэнтаў аб немагчы-

масьці выканаць дагавор цалкам альбо ў якой-небудзь яго частцы на падставе пастаноў Ураду альбо адпаведных рэгулюючых органаў.

Невыкананьне гэтага параграфу цягне адказнасьць пастаўшчыка, падрадчыка і г. д., якая ўстаноўлена гэтым загадам.

4. У паказаныя ў п. 1 гэтага загаду дагаворы абавязкова павінны ўключацца паказаньні на наступныя правы пакупніка (заказчыка):

а) налічваць пеню ў разьмеры $^1/_{10}\%$ у дзень з кошту пратэрмінаванай з адгрузкай (здачай) прадукцыі, а пасьля сканчэньня тэрміну налічэньня гэтай пені патрабаваць няўстойку ў паказаных у дагаворы выпадках і разьмерах выдачай пакупнікам (заказчыкам і г. д.) адпаведнага загаду Дзяржаўнаму Банку аб пералічэньні з рухунку прадаўца на рахунак пакупніка патрабаванай сумы незалежна ад згоды прадаўца (пастаўшчыка, падрадчыка і г. д.);

б) патрабаваць апроч пені і няўстойкі за невыкананьне дагавору таксама і пакрыцьця страт, якія былі зроблены невыкананьнем умоў дагавору.

Разьмер няўстойкі ня можа быць менш 5% каштоўнасьці прадукцыі, якая ня была здана (адгружана) у абумоўленыя дагаворам тэрміны. Уплата пені і няўстойкі не звальняе старану ад выкананьня дагавору.

Пры адсутнасьці ў контрагэнта кантакарэнтнага рахунку ў Дзяржаўным Банку, утрыманьне ўстаноўленых гэтым загадам пені і няўстойкі робіцца непасрэдна пакупнікам (заказчыкам і г. д.) пры бліжэйшым плацяжы.

5. Забараняецца ўключаць у дагаворы ўмовы аб аслабаненьні контрагэнтаў ад адказнасьці за пратэрміноўку ці невыкананьне дагавору, выкліканыя несваечасовай дастаўкай альбо адмовай у дастаўцы гэтым контрагэнтам заказанага альбо патрэбнага абсталяваньня, матарыялаў або тавараў, за выключэньнем такіх выпадкаў, калі для выкананьня дагавору патрэбна імпортнае абсталяваньне і тавары.

6. У дагаварох павінны абавязкова прадугледжвацца вынікі несваечасовай падачы паказаных у п. 1 пакупнікам (заказчыкам) занарадак (заявак) прадаўцу (пастаўшчыку, падрадчыку і г. д.) у тым ліку права працягненьня тэрмінаў выкананьня гэтай занарадкі (заяўкі).

7. Гаспадарчыя і каперацыйныя арганізацыі павінны мець сыстэматычны нагляд за захаваньнем тэрмінаў выкананьня пералічаных у п. 1 гэтага загаду дагавораў і няўхільна ажыцьцяўляць прадугледжаныя гэтымі дагаворамі санкцыі за невыкананьне ўмоў дагавору.

8. Кіраўніцтвам і аб'яднаньням ВСНГ БССР і НКГ БССР, а таксама беларускім рэспубліканскім каперацыйным цэнтрам прапануецца пры разглядзе гадовых справаздач падпарадкаваных ім гаспадарчых органаў і пры дачы характэрыстык снабжэнчаскай і збытавой рабоце апошніх улічваць разьмеры сум, якія выплачаны гэтымі органамі як пеня, няўстойка і іншыя страты.

9. Загады ВСНГ БССР за 4/VII—1929 г. № 33/227 і НКГ БССР за 22/VIII—1929 г. № 290 аб адказнасьці за парушэньне дагавораў на пастаўку будаўнічых матарыялаў скасаваць.

Нам. Старшыні Вышэйшага Савету
Народнай Гаспадаркі БССР *Стракоўскі.*

Нам. Народнага Камісара Гандлю БССР *М. Абрамсон.*

22 мая 1930 г.
№ 370.

**Паст. 112. Ад Урадавай Камісіі СНК БССР па падрыхтоўцы правядзеньня 7-гадзіннага рабочага дня на прадпрыемствах БССР.**

Перавесьці ў 1929/30 годзе на 7-гадзінны рабочы дзень наступныя прадпрыемствы:

1) Масларобны зав. „Зорка“ ў г. Магілеве—1/VI-1930 г.,
2) „ „ імя Калініна ў г. Віцебску—1/VI- 1930 г.,
3) „ „ „ Адзярыха ў г. Бабруйску—1/VI-1930 г.,
4) Іголкавую фабрыку ў г Віцебску—11/VII-1930 г.,
5) Завод „Энэргія“ ў г. Менску—11/VII-1930 г,
6) Папяровую фабрыку „Гэрой Працы“ ў г. Добрушы—1/VIII 1930 г.,
7) Абойную фабрыку імя Вароўскага ў г. Менску—1/VIII-1930 г.,
8) Друкарню „Палесдрук“ у г. Гомелі—1/VIII-1930 г.,
9) Кахляна-Плітачны зав. „Пралетары“ ў м. Копысі—1/IX-1930 г.,
10) Друкарню БДВ у г. Менску—1/VIII-1930 г.,

Старшыня Ўрадавай Камісіі *М. Гнілякевіч.*

Адказны Сакратар *Х. Гольдзінберг.*

22 мая 1930 г.
г. Менск.

Адказны Рэдактар **С. Лодысеў.**

Менск. Друк. Бел. Акад. Навук. Заказ № 3003. Тыраж 5000 экз. Галоўлітбел № 1572.

Цана 15 кап.

# АБВЕСТКА

Установам і асобам, якія атрымоўваюць Збор Законаў і Загадаў БССР і Бюлятэнь СНК БССР за плату і якія падпісаліся на гэтыя выданьні толькі на паўгода, г. зн. да 1 ліпеня 1930 г., высылка паказаных выданьняў з 1 ліпеня будзе спынена.

Калі хто з паказаных падпішчыкаў жадае працягнуць тэрмін падпіскі, ён павінен да 1 ліпеня г. г. унесьці належачую за другое паўгодзьдзе падпісную плату:

За Збор Законаў . . . 5 руб. —
За Бюлятэнь СНК . . . 2 руб. 50 к.

Падпіска як гадавая, так і паўгадавая (з 1 студзеня або з 1 ліпеня) на 1930 г. прадаўжаецца. Гадавая падпісная плата па першаму выданьню — 10 р., а па другому — 5 руб. За альфабэтна-прадметныя паказчыкі даплачваецца дадаткова па 75 кап.

Падпіску і грошы накіроўваць:

г. Менск, Чырвонаармейская, 3, Інфармац.-Выдав. Аддзелу Кіраўніцтва Спраў СНК і ЭН БССР.

Падпіску прымаюць таксама пісьманосцы, усе паштовыя ўстановы і кнігарні БДВ.